Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 830
Адрас для карэспандэнцыі: 220088,
г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ

Пятніца, 25 верасня 1998 г. № 102 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Ордэн для патрыярха

**Учора ў Мінск з апостальскім візітам прыбыў патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Алексій II.**

Беларускія ўлады сустракалі патрыярха Алексія, быццам кіраўніка краіны, пра што сведчылі выстаўленыя на дарогах пасты міліцыі і ДАІ. Невялікая колькасць мінчан чакала патрыярха на плошчы Перамогі, а таксама каля катэдральнага сабора. Кіраўнік Рускай праваслаўнай царквы благаславіў прысутных і падарыў храму лампадку, якую запалілі каля абраза Мінскай Божай Маці. Вернікам патрыярх прывёз у падарунак абразы, якіх хапіла літаральна на два дзесяткі чалавек. Відаць, эканамічны крызіс у Маскве моцна адбіўся на РПЦ.

Калі нумар газеты здаваўся ў друк, патрыярх знаходзіўся на прыёме ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі. Тут Лукашэнка ўручыў Алексію ордэн Францыска Скарыны за ўдзел у паглыбленні інтэграцыі. Натуральна, патрыярх Алексій таксама прывёз узнагароды і падарункі, якія лічацца больш каштоўнымі, бо даюцца ад імя нябесных уладаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Прымакова чакаюць у Мінску

**Новы расійскі прэм'ер Яўген Прымакоў прыедзе ў Беларусь напрыканцы гэтага месяца.**

Па звестках Інтэрфакса, візіт адбудзецца 30 верасня і будзе даволі кароткім. Плануецца сустрэча з прэзідэнтам А.Лукашэнкам і прэм'ерам С.Лінгам.

Беларускі прэзідэнт заявіў у мінулую сераду журналістам, што збіраецца распавесці расійскаму прэм'еру «аб тым, што адбываецца ў Расіі», і падзяліцца вопытам, як выходзіць са становішча, «якое мы ўжо перажылі некалькі разоў». У Прымакова Лукашэнка плануе выведаць ягоную пазіцыю наконт будучыні Саюза Беларусі і Расіі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Да прэзідэнта – праз «палату»

**Латвійская дэлегацыя на чале са спікерам сейма Латвіі Альфрэдам Чэпанісам сустрэлася ўчора з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.**

Абмяркоўваліся пытанні двухбаковага супрацоўніцтва. Латышоў асабліва цікавяць беларуская грузапатокі, якія яны мараць накіраваць у латвійскія порты Вентспілс і Ліепая. Мэры гэтых гарадоў спецыяльна былі ўключаныя ў парламенцкую дэлегацыю Латвіі.

Дарэчы, латышы наведалі Мінск па запрашэнні старшыні верхняй палаты лукашэнкаўскага парламента Паўла Шыпука. На гэтую акалічнасць робіць націск прэс-служба Нацыянальнага сходу. Тым самым дэманструецца, нібыта парламент атрымлівае прызнанне. Раней толькі «браты-славяне» з Югаславіі сябравалі з лукашэнкаўскімі дэпутатамі. Зараз вось і прыбалты пагадзіліся «закантачыць». Відаць, вельмі хочацца латышам абысці літоўцаў і палякаў ды самім зарабляць на перавозцы беларускіх грузаў. Падобная беспрынцыпнасць наўрад ці будзе спрыяць уступленню Латвіі ў Еўрасаюз, краіны якога лічаць новы беларускі парламент нелегітымным.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Прарыў на Крым

**Лідэр крымскіх камуністаў збіраецца ў Мінск па запрашэнні прэзідэнта Лукашэнкі**

Як нам стала вядома, на 29 верасня прызначаны візіт у Мінск спікера парламента Крымскай аўтаномнай рэспублікі Леаніда Грача. Ён планує падпісаць з беларускім бокам пагадненне пра гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва.

У канцы жніўня прэзідэнт Лукашэнка сустрэўся ў сваёй крымскай рэзідэнцыі са спікерам Грачом, які ўзначальвае яшчэ і Крымскі камітэт кампартыі Украіны. Тады і зайшла гаворка пра эканамічнае супрацоўніцтва без пасрэдніцтва, як сказаў Рыгоравіч, "шкурной прослойки». За ўзор было ўзятае супрацоўніцтва Беларусі з расійскімі рэгіёнамі. Прэзідэнт спадзяецца, што пасля «прарыву на Крым» у Беларусь хлынуць танныя алей, рыба і гародніна. Па словах Лукашэнкі, ён лічыць лідэра крымскіх камуністаў сваім «аднадумцам», а ў сваю чаргу Грач назваў кіраўніка Беларусі «вялікім сябрам».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Амаль як Дзяржынскі

**Камітэт дзяржбяспекі напаткала непрыемнасць: міліцыя затрымала работніка гэтага ведамства Ш., які займаўся бандытызмам.**

Аперацыю праводзілі супрацоўнікі камітэта па арганізаванай злачыннасці МУС Беларусі. Сяржант КДБ быў схоплены разам з раней судзімым А. і беспрацоўным Б. пасля ўчыненага імі нападу на двух грамадзянаў, якіх яны абрабавалі (забралі грошы і каштоўнасці). Здарылася гэта пад Мінскам на аўтадарозе Новы Двор — Гатава. Затрыманыя знаходзяцца ў следчым ізалятары.

**Я.НЯГОДЗЬКА**

## Галадоўка дапамагла прадаць бульбу

**Галадоўку пратэсту абвесціў фермер са Шклоўскага раёна Павел Крушкін. Селянін пратэставаў супраць таго, што ў яго аднялі 16 тон бульбы, якія ён вёз на продаж у Расію.**

Фермер распачаў галадоўку на плошчы Леніна ў Магілёве. Ён распавядае, што машыну з бульбай затрымала шклоўская міліцыя, і ад фермера пачалі патрабаваць нейкі дазвол. У яго не было дазволу. Крушкін лічыць гэта дзікунствам. *«Я гаспадар таго, што сам вырасціў, і сам здольны вырашаць, куды прадаваць сваё»*, — абураецца ён.

У выніку затрымання грузу, якое цягнулася 7 дзён, фермер меў страты па 100 долараў у суткі за прастой грузавіка. Але галадоўка Крушкіну дапамагла. Усяго праз некалькі гадзінаў яго запрасілі ў аблвыканкам, дзе чыноўнікі выдалі неабходны дазвол. Але фермер так і не зразумеў, у чым сэнс забарончых мераў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



***«Могілкі» каля Быхава.***

*Фотарэпартаж на стар. 3*

## *Пенсіі*

***З 1 кастрычніка пенсіі ў сярэднім павялічацца на 15,3%. Сярэдняя пенсія будзе 2 мільёны 100 тысяч рублёў, а максімальная ўзрасце да 2 мільёнаў 511 тысяч рублёў. Памер мінімальнай пенсіі разам з устаноўленай урадам даплатай складзе ўсяго 1 мільён 50 тысяч рублёў.***

## *Даўгі*

***Аб'ём запазычанасці Беларусі за расійскі газ з пачатку гэтага года павялічыўся на 126,5 мільёна долараў ЗША і перавысіў 222 мільёны долараў. У сувязі з запазычанасцю РАТ «Газпром» абмяжаваў свае пастаўкі ў Беларусь.***

## *Пікеты*

***Сёння пікет у абарону роднай мовы правядуць сябры Таварыства беларускай мовы. Акцыя пройдзе з 17 да 19 гадзінаў каля станцыі метро «Партызанская».***

***Серыю пікетаў супраць парушэння правоў чалавека ў Беларусі і ў падтрымку грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя'97» правядзе ў Мінску Аб'яднаная грамадзянская партыя. 28 верасня пікет пройдзе ў скверы на вуліцы Гарадскі Вал, 29-га — на рагу вуліц Мельнікайтэ і Раманаўская Слабада, 30-га — на перасячэнні вуліцы Жылуновіча і Партызанскага праспекта. Час акцыяў — з 15 да 18 гадзінаў.***

## Студэнты падалі на рэктара ў пракуратуру

**На беспрэцэдэнтны крок пайшлі студэнты Белдзяржуніверсітэта. Навучэнцы платных аддзяленняў звярнуліся ў мінскую пракуратуру са скаргай на рэктара БДУ А.Казуліна.**

Прычынай стала рэзкае павышэнне платы за вучобу. Раней студэнты, заключыўшы дамову на аплату ў доларах, плацілі ў рублях па курсе Нацыянальнага банка. З гэтага навучальнага года адміністрацыя БДУ запатрабавала: або плаці ў валюце — або паводле курса, устаноўленага самім універсітэтам. Курс гэты вагаўся штотыдзень і дасягаў 125 тысяч рублёў — нашмат больш, чым нават у «валютчыкаў».

Цяпер адбылася «стабілізацыя» на ўзроўні 100 тысяч рублёў за «ўмоўную адзінку», але факт застаецца фактам: аплата за навучанне павысілася ў БДУ рэкордна.

Як лічаць студэнты, ніякіх падставаў для гэтага няма, бо рэальныя выдаткі на іх вучобу не змяніліся. Чаго, праўда, не скажаш аб апетытах універсітэцкай адміністрацыі. Прыкладам таму — нядаўні пераезд рэктара з галоўнага корпуса БДУ ў шыкоўны рэстаўраваны будынак у двары універсітэта. Вялізныя апартаменты, імпартная мэбля з натуральнага дрэва, скураныя крэслы... І пасля гэтага універсітэцкае начальства тлумачыць студэнтам павышэнне платы «эканамічнымі і палітычнымі цяжкасцямі ў краіне».

Гарадская пракуратура вынесла пратэст адміністрацыі БДУ і рэктару А. Казуліну. БДУ — дзяржаўная ўстанова, а не прыватны банк, каб вызначаць курс долара (тым больш у парушэнне заключаных раней са студэнтамі дамоваў). Калі універсітэцкая адміністрацыя не адступіцца ад свайго, студэнты маюць намер звярнуцца ў суд. Дапамагчы ім у гэтым паабяцалі свабодныя прафсаюзы.

**Наталля ВАЛАКІДА**

## КДБ хоча ў Інтэрнэт

**У хуткім часе ў глабальнай інфармацыйнай сістэме Інтэрнэт (прынамсі, у беларускай яе частцы) з'явіцца старонка беларускага КДБ.**

Пра гэта на прэс-канферэнцыі, прысвечанай абароне інфармацыйнай прасторы Беларусі, паведаміў Віктар Кузьмін, старшы інжынер Камітэта дзяржбяспекі Беларусі. *«Усе асноўныя спецслужбы свету маюць свае афіцыйныя web-старонкі ў Інтэрнэце альбо маюць намер іх ствараць»*, — сказаў В.Кузьмін. Такім чынам, беларускі КДБ не збіраецца адставаць ад ЦРУ, брытанскай МІ-6 або ізраільскага Масада і ўжо актыўна працуе над стварэннем уласнай старонкі.

Для тых, хто яшчэ не вельмі арыентуецца ў «сусветнай павуціне», як яшчэ называюць Інтэрнэт, нагадаем, што ў прынцыпе кожны чалавек ці ўстанова можа стварыць сваю web-старонку і змясціць там любую інфармацыю: тэксты, здымкі, малюнкі, аўдыё- і відэазапісы. Звычайна ўстановы, у тым ліку і дзяржаўныя, паведамляюць усім цікаўным інфармацыю аб сваёй працы. Пра што ж будуць расказваць беларускія спецслужбы? Адказу пакуль няма.

Зрэшты, камп'ютэр у нас маюць нямногія, а радыёпрыёмнікі ёсць практычна ў кожнага. Падчас прэс-канферэнцыі намеснік начальніка аддзела эканамічнага кіравання КДБ Беларусі Міхаіл Азарэнка паведаміў, што КДБ ніяк не перашкаджае вяшчанню заходніх «радыёгаласоў» на Беларусь і не плануе ўключаць «глушылкі» ў далейшым. М.Азарэнка лічыць немагчымай на сённяшні дзень «інвентарызацыю» тэхнікі, пры дапамозе якой можна вырабляць улёткі, друкаваць «самвыдатаўскую» літаратуру і г.д. У савецкія часы нават пішучыя машынкі былі на ўліку ў «органах», а цяпер рэгістрацыі падлягаюць толькі высакаякасныя паліграфічныя сістэмы, а таксама капіравальныя капіравальныя машыны (ксераксы) — каб ва ўладальнікаў не ўзнікла спакуса самім друкаваць каштоўныя паперы або грошы.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Схапілі толькі аднаго «мінёра»

***У Гродзенскай вобласці ў гэтым месяцы «бомбы» падкладваюць адну за адной***

Напачатку тыдня па тэлефоне 01 невядомы паабяцаў праз паўтары гадзіны ўзарваць біялагічны факультэт Гродзенскага універсітэта. Бомбу не знайшлі, але ж заняткі былі сарваныя. На наступны дзень пасля ананімнага званка па 02 спецыялісты шукалі міну ў будынку Вышэйшага электратэхнічнага вучылішча, разам з якім знаходзіцца філія аднаго недзяржаўнага інстытута. Зноў-такі беспаспяхова. У гэтым вучылішчы з пачатку верасня гэта ўжо другое такое здарэнне.

Усяго ў Гродзенскай вобласці ў верасні паступіла каля дзесяці падобных фальшывых сігналаў. Аднаго «мінёра» — васьмікласніка Першамайскай школы Лідскага раёна — удалося затрымаць. Бацькам давядзецца заплаціць штраф.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

## Каму выгадныя выбары?

**Беларускія ўлады ў пэўным сэнсе зацікаўленыя ў правядзенні парламенцкіх выбараў, прычым менавіта дэмакратычных, лічыць намеснік старшыні АГП Аляксандр Дабравольскі.**

Рэч у тым, што вынікі сапраўды дэмакратычных выбараў *«будуць прызнаныя міжнароднай супольнасцю і прывядуць да легітымізацыі існуючага рэжыму»*, — патлумачыў сваю думку А.Дабравольскі, выступаючы на міжнародным семінары *«Павышэнне эфектыўнасці дзейнасці СМІ ў Рэспубліцы Беларусь»*, што прайшоў пазаўчора ў Мінску. Як лічыць дэпутат Вярхоўнага Савета, рух за перавыбары заканадаўчай улады трэба пачынаць з аднаўлення Цэнтральнай выбарчай камісіі, старшыня якой В.Ганчар быў незаконна зняты напярэдадні рэферэндуму 1996 г. Затым, паводле А.Дабравольскага, варта аднавіць трохбаковыя перамовы *«Вярхоўны Савет — дзеючая ўлада — еўрапейскія структуры»*.

На думку віцэ-прэзідэнта Беларускай асацыяцыі журналістаў Уладзіміра Глода, *«цяпер час іграе на дэмакратычныя сілы»*, бо выбары без удзелу апазіцыі міжнародная грамадскасць не прызнае, а таму можна прад'яўляць «любыя патрабаванні»: напрыклад, аб вяртанні Цэнтральнай выбарчай камісіі ў ранейшым складзе пад старшынствам Віктара Ганчара. А вядомы прадпрымальнік А.Патупа выказаў думку, што сёння асновай для аб'яднання ўсіх дэмакратычных сіл павінна быць не асоба (таму што такіх сярод апазіцыйных палітыкаў ён не бачыць), а стратэгія.

*БелаПАН*

## Глабальнае ачышчэнне

**У крымскім горадзе Сакі, дзе знаходзіцца вядомы гразевы курорт, завяршыўся міжнародны кангрэс «Экалогія і ачышчэнне чалавека».**

Як паведамляе агенцтва БелаПАН, у кангрэсе ўзялі ўдзел 150 тэарэтыкаў і практыкаў — з Украіны, Беларусі, Літвы, Балгарыі і Карэі. Яны разглядалі вельмі важныя праблемы — шляхі развіцця агульнапланетарнай экалагічнай этыкі. Удзельнікі кангрэса прынялі таксама зварот да кіраўнікоў дзяржаваў, рэлігійных канфесіяў і духоўных цэнтраў аб неабходнасці будаўніцтва Храма Міру, закліканага стаць духоўным цэнтрам планеты Зямля. Застаецца спадзявацца, што на гэтыя глабальныя праекты дадуць грошы багатыя дзяржавы Захаду, якія чамусьці не прыслалі сваіх прадстаўнікоў на кангрэс ачышчэнцаў.

**М.Н.**



## Бацюшкі слухалі страляніну

**У гродзенскім 28-м армейскім корпусе адбыліся даволі маштабныя вучэнні.**

У манеўрах удзельнічалі 4 тысячы вайскоўцаў, 100 танкаў, артылерыя і авіяцыя. Назіралі за вучэннямі нашы сябры з расійскага міністэрства абароны, ваенныя аташэ, а таксама ўпершыню — праваслаўныя бацюшкі.

## Не хапіла пораху

**У вайсковым гарадку Гожа, што на дарозе Гродна — Друскенікі, апусцелі «парахавыя склепы».**

29 верасня ахвотныя змогуць купіць там два сховішчы для боепрыпасаў. Пачатковы кошт аднаго сховішча, выстаўленага на аўкцыён, — 246 мільёнаў рублёў, другога — 237 мільёнаў. У іншым месцы прапануецца і больш дарагі аб'ект — вучэбны корпус за 1 мільярд рублёў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## А вінаваты стрэлачнік

**У ноч на панядзелак на чыгуначнай станцыі «Магілёў-2» адбылося надзвычайнае здарэнне. Яно магло мець самыя трагічныя наступствы, бо ў брыгады ратавальнікаў не было належнага абсталявання.**

Усё адбывалася ўначы. Ад сутыкнення цыстэрны з сернай кіслатой і вагона кіслата пачала выцякаць на зямлю, вылілася каля 40 тон.

Ліквідацыя аварыі цягнулася амаль два дні, працавалі амаль 30 чалавек. Толькі па шчаслівай выпадковасці ніхто не пацярпеў, бо рамонтнікі не мелі належнага рыштунку. Прабоіну спрабавалі заткнуць звычайным бушлатам, драўляным коркам. Натуральна, кіслата ўсё спальвала. Некалькі гадзінаў спатрэбілася, каб разабрацца з прабоінай.

Спецыялісты адзначаюць, што навакольным жыхарам моцна пашанцавала. Не было дажджу, кіслата лілася ў пясчаны насып. У іншым выпадку людзям пагражалі масавыя атручванні ад выпарэнняў.

Вінаватымі ва ўсім прызналі счэпшчыка вагонаў і, канечне ж, стрэлачніка-рэгуліроўшчыка.

## У Быхаве злавілі маньяка

**У райцэнтры Быхаў Магілёўскай вобласці выкрыты «серыйны забойца».**

Быхаўскі маньяк быў затрыманы па падазрэнні ў адным забойстве. Ужо падчас следства ён прызнаў сябе вінаватым яшчэ ў трох смерцях. Усе ахвяры — жанчыны. Забойца паказаў месцы, дзе закопваў парэшткі сваіх ахвяраў. Забойца сказаў, што рабіў сваю чорную справу, «каб супакоіць нервы».

**Іван ЗАСАДА**

## Забралі рыбу разам з ЗІЛам

**У Гомельскай вобласці множацца выпадкі канфіскацыі аўтамабіляў, на якіх у Расію вязуць з Беларусі тавар.**

Прэс-служба гомельскай міліцыі паведаміла, што ў вобласці старанна выконваецца прэзідэнцкі дэкрэт № 15 аб спыненні вывазу тавараў за мяжу. Працуючы кругласутачна, міліцыянты праверылі ўжо каля 25 тысяч транспартных сродкаў, зафіксавана ўсяго 87 фактаў вывазу тавараў. Асабліва пацярпеў ад дэкрэта ўладальнік прыватнага ЗІЛа, які здаў яго ў арэнду жыхару Масквы. Расіянін спрабаваў вывезці з Гомеля 4 тоны свежамарожанай рыбы, але быў затрыманы. Суд Гомельскага раёна канфіскаваў рыбу разам з грузавіком.

Можа пазбавіцца свайго «Опеля» і жыхар Пінска, чый аўтамабіль з трыкатажам на суму 80 млн. рублёў таксама затрыманы. За падобныя «грахі» могуць страціць свае аўто яшчэ тры ўладальнікі транспартных сродкаў, па чыіх справах вядзецца праверка. І гэта пры тым, што вываз законна купленых тавараў паводле закона не з'яўляецца ніякім злачынствам.

**У.В.**

## Бензін падаражэе



**Бліжэйшым часам у Беларусі істотна павысіцца рознічныя цэны на нафтапрадукты.**

Як паведаміла інфармаваная крыніца ў дзяржаўным канцэрне «Белнафтахім», урад хутка зацвердзіць адпаведную пастанову. Плануецца, што цана на бензін А-76 на АЗС узрасце на 10%, АІ-92 — на 15%, АІ-95 і дызельнае паліва — на 20%.

*БелаПАН*

# Масква, вярні ракеты!

*Аляксандр Лукашэнка выказаў шкадаванне, што Беларусь згадзілася вывесці са сваёй тэрыторыі ядзерную зброю*



*На здымку: узарваная стартавая пляцоўка ракет сярэдняй дальнасці ў Слуцкім раёне (фота з архіва).*

У сераду, падчас наведвання адной з частак войскаў супрацьпаветранай абароны, прэзідэнт заявіў літаральна наступнае: *«Мы дапусцілі вялікую стратэгічную памылку, і гэта мела наступствы на перамовах Расіі з NATO. Расія стала больш згаворлівай, калі ў Беларусі не засталося ніводнай адзінкі ядзернай зброі. Я думаю, да расіянаў прыйдзе калі-небудзь усведамленне таго, што нам трэба мацаваць абараназдольнасць».*

Нагадаем, што некаторыя прэзідэнцкія чыноўнікі і раней шкадавалі аб страчаных боегалоўках, а таксама гаварылі аб неабходнасці іх вяртання ў Беларусь. Але ўпершыню адкрыта пра гэта сказаў сам Лукашэнка.

Што хаваецца за гэтымі словамі? Чарговая спроба напалохаць Захад ці тонкі разлік на тое, што Масква прыслухаецца да свайго беларускага саюзніка і захоча вярнуць ракеты на пярэдні край абароны?

Мы папрасілі пракаментаваць заяву прэзідэнта былога старшыню Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча. Менавіта ў тыя гады, калі Шушкевіч стаяў на чале дзяржавы, парламентам быў зацверджаны бяз'ядзерны статус Беларусі і пачаўся вывад з нашай тэрыторыі ядзерных боегаловак.

«Ведаеце, няма лекаў ад гэтай хваробы», — сказаў Станіслаў Шушкевіч. Былы спікер лічыць, што Лукашэнку проста няма больш пра што гаварыць і чым хваліцца. У краіне крызіс, інфляцыя, растуць цэны, таму ён у сваім палітрукоўскім стылі і робіць такія скандальныя, бязглуздыя заявы. Шушкевіч перакананы, што беларускія ўлады паступілі слушна, адмовіўшыся ў свой час ад захавання чужой ядзернай зброі, бо небяспечна для краіны і яе насельніцтва ўтрымліваць ракеты і станцыі радыёлакацыйнага сачэння. У выпадку ваеннага канфлікту першы ўдар праціўнік наносіць менавіта па такіх аб'ектах.

Станіслаў Шушкевіч лічыць, што такімі заявамі А.Лукашэнка парушае і беларускую Канстытуцыю, у якой гаворыцца аб бяз'ядзерным статусе нашай краіны.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Акадэмікі апраўдалі «тарашкевіцу»

**Рэдакцыя газеты «Наша Ніва», якая адстойвае ў Вышэйшым гаспадарчым судзе свае права карыстацца дарэформенным беларускім правапісам, атрымала нечаканую падтрымку з боку экспертаў Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук.**

Нагадаем, што рэдакцыя «Нашай Нівы» звярнулася ў суд пасля таго, як Дзяржкамдрук вынес газеце папярэджанне за карыстанне ненарматыўным правапісам — «тарашкевіцай». Дзяржкамдрук спасылаецца на Закон аб СМІ, які абавязвае выкарыстоўваць «агульнапрынятыя нормы мовы». Гэтая праблема з'яўляецца справай выключна філалагічнай. Суд вырашыў звярнуцца да экспертаў, каб тыя далі сваю ацэнку адносна абгрунтаванасці дзяржкамдрукаўскага папярэджання.

Экспертны савет, у які ўвайшлі вядомыя навукоўцы-філолагі, прычым не толькі з Акадэміі, павінен быў даць адказы на тры пытанні суда: што такое агульнапрынятыя нормы мовы, у сказанні якіх абвінавачваюць «Нашу Ніву», у якіх прававых ці філалагічных крыніцах вызначаецца гэтае паняцце і ці з'яўляецца выкарыстанне «тарашкевіцы» сказаннем тых самых нормаў.

І вось у аўторак эксперты зрабілі сваё заключэнне, з якога вынікае, што ў сучаснай навуковай літаратуры паняцце "агульнапрынятыя нормы" не выкарыстоўваецца і ніякімі прававымі актамі не рэгламентуецца. Акадэмічныя мовазнаўцы таксама лічаць, што правапіс, які існаваў у Беларусі да 1933 г., не скажае нормаў беларускай мовы і можа выкарыстоўвацца ў літаратуры. «Наркомаўскі» ж правапіс з'яўляецца абавязковай нормай толькі для дзяржаўных ведамстваў і навучальных установаў.

Такім чынам, акадэмікі апраўдалі «тарашкевіцу» і «Нашу Ніву». Апошняе слова за судом.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Адным махам пяра

*Сумесны беларуска-расійска-аўстрыйскі банк яшчэ толькі ствараецца, але прэзідэнт Лукашэнка ўжо «нацыяналізаваў» яго*

Колькі месяцаў таму Нацыянальны банк пачаў шукаць замежных партнёраў для стварэння сумеснага банка, які б спецыялізаваўся на міжнародных гандлёвых аперацыях і стымуляванні інвестыцыйнай дзейнасці. Кіраваў перамовамі Генадзь Алейнікаў, былы старшыня Нацбанка, які пасля адстаўкі павінен быў заняць пост кіраўніка сумеснага банка. Нягледзячы нават на невялікую прывабнасць беларускай эканомікі для інвестараў, адшукаць партнёраў Нацбанк здолеў. Імі сталі маскоўскі банк «Возрождение» і аўстрыйскае акцыянернае таварыства інвестыцыяў, кіравання маёмасцю і капіталам *INVB*.

Бліжэй да восені стала вядома, што статутны капітал новага банка павінен скласці прыкладна 10 млн. долараў. Ад замежных партнёраў ужо было атрымана пацверджанне аб укладанні ў праект спачатку 2,5 млн. долараў. Доля Нацыянальнага банка на пачатку павінна скласці недзе 177,5 млрд. беларускіх рублёў. Улічваючы праблемы з фінансамі, беларускі бок вырашыў у якасці сваёй долі ўнесці будынак па вул. Савецкай 12, які належаў раней банку-банкруту «Дукат», а таксама аўтамабіль «Мерседэс».

Справе, здаецца, нават не пашкодзіў фінансавы крызіс. Сюрпрыз чакаў стваральнікаў з нечаканага боку. Аляксандр Лукашэнка, у якога прасілі дазвол на перадачу будынка новаму банку, дазвол даў і справу адобрыў. Але апошняя фраза прэзідэнцкай рэзалюцыі фактычна ўсё перакрэсліла: *«банк должен быть белорусским и государственным, здание банка следует оценить на приличную сумму».*

У выніку чыноўнікі Нацбанка не могуць зараз зразумець: як банк можа быць адначасова *сумесным, беларускім і дзяржаўным*? Узяць на сябе адказнасць і працягваць справу па стварэнні сумеснага банка пасля такой рэзалюцыі яны баяцца.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Наркаманы пераходзяць на гераін

**За апошнія дзесяць гадоў колькасць ВІЧ-інфіцыраваных вырасла ў Беларусі ў 1.086 разоў. Не здзіўляйцеся, гэта сапраўды так: у 1987 годзе ў нас было 2 зарэгістраваныя выпадкі заражэння ВІЧ-інфекцыяй, а на пачатак 1998 г. — 2.173. За восем месяцаў гэтага года лічба павялічылася яшчэ на 386. Такія вось тэмпы. Спецыялісты прагназуюць, што да канца года ў нашай краіне будзе каля 2,5 тысяч носьбітаў СНІДу.**

Пасля 1996 года асноўным шляхам заражэння ўпэўнена стаў параэнтэральны — праз кроў. Такім спосабам заражаецца прыкладна 86 працэнтаў ВІЧ-інфіцыраваных. Яшчэ 15% — палавым. Астатняе прыходзіцца на вертыкальны шлях — калі маці заражае дзіця ў перыяд цяжарнасці.

Што значыць параэнтэральны шлях? Гэта наркаманія, гэта заражэнне праз нестэрыльны шпрыц. Барацьба са СНІДам у нашых умовах азначае барацьбу з наркаманіяй. А тут вам ніхто нічога канкрэтнага не скажа, нават колькі ў нас наркаманаў і чаго нам чакаць у самым бліжэйшым будучым. Адно можна сцвярджаць дакладна: колькасць наркаманаў няўхільна расце, а гэта, у сваю чаргу, азначае, што будзе расці і колькасць ВІЧ-інфіцыраваных.

## «Гераінавая» рэвалюцыя

Самымі масавымі «спажыўцамі» наркотыкаў у Мінску з'яўляюцца Заводскі і Ленінскі раёны. Асабліва шмат «кропак» у Заводскім раёне, чаму спрыяе вялікі прыватны сектар.

Апошнім часам у асяроддзі наркаманаў адбываецца «гераінавая» рэвалюцыя — яны пераходзяць з апіятаў (разнастайная дрэнь з макавай саломкі) на гераін. Гэта таксама ўнутрывенныя ін'екцыі, але большы кайф дый кошт прыблізна аднолькавы. Адна доза гераіну (0,25 грама) каштуе 25 долараў. Адзін грам, адпаведна, ад 100 да 125 долараў.

Да Мінска гераін робіць шлях далёкі і звілісты: з Афганістана, праз Сярэднюю Азію, далей — Масква, Санкт-Пецярбург і, нарэшце, сталіца нашай радзімы.

Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу праводзіць рэгулярныя апытанні сярод наркаманаў. Вось некаторыя вынікі: 2/3 наркаманаў маюць стаж ужывання наркотыкаў 3 гады і менш, 20 працэнтаў — менш года, 2/3 ужываюць наркотыкі штодзённа, 60 працэнтаў напаўняюць шпрыц з агульнай ёмістасці, 80 працэнтаў выкарыстоўваюць адзін шпрыц шматразова і г.д. Калі вірус трапіў у наркакампанію, гавораць спецыялісты, то на працягу трох гадоў заражаюцца ўсе члены групоўкі.

## Шпрыцы для наркаманаў

Магчыма, нямногія ведаюць, што ў Беларусі існуе дзяржаўная праграма прафілактыкі ВІЧ-інфекцыі на 1997—2000 гады. Дакумент налічвае ажно 64 пункты і вытрыманы ў старасавецкім духу: арганізаваць, укараніць, забяспечыць і г.д. Вызначана мноства адказных — ад міністэрства аховы здароўя да МУС і мінабароны. Ёсць, праўда, падазрэнне, што ў сямі нянек дзіця, па традыцыі, застанецца без вока. Будзем, аднак, спадзявацца на лепшае.

Адзін з пунктаў праграмы прадугледжвае: «Арганізаваць пры наркалагічных дыспансерах пункты выдачы наркаманам дэзінфіцыруючых сродкаў, прэзерватываў і шпрыцаў з наступным іх абменам». У прынцыпе, разумна. Але, скажам, у Мінску такі пункт толькі адзін — на вуліцы Перадавой, яшчэ два — у Светлагорску.

Між іншым, на вул.Перадавой наркаманам мяняюць толькі шпрыцы. Масавых наведванняў не адзначана. Бываюць дні, калі не прыходзіць ніхто. Дый калі прыходзяць, то толькі тыя, хто ўжо «засвечаны» — стаіць на ўліку. Ёсць тут, праўда, і ананімны ўлік, але і там масавасці не відаць. Як мне сказалі на Перадавой, праблема чыстага шпрыца не галоўная: калі ў чалавека знаходзяцца долары на гераін, то купіць шпрыц не ёсць невырашальная задача. Кожны сёмы, хто прыходзіць сюды — ВІЧ-інфіцыраваны. А арганізавана ўсё не сказаць што вельмі разумна — шпрыцы мяняюць у тым жа кабінеце, што і вядуць прыём наркаманаў. Уявіце: урач-нарколаг пераконвае наведвальніка, што наркотыкі дрэнь — і тут жа выдае шпрыцы — выдатны «прапагандысцкі» эфект.

У бліжэйшы час запланавана адкрыць пункты па абмене шпрыцаў у Бабруйску, Магілёве, Баранавічах. Фінансаванне іх будзе ісці пераважна праз ААН.



Што датычыць псіхалагічнай дапамогі наркаманам і хворым на СНІД, то варыянтаў пакуль няшмат. У Мінску, напрыклад, гэтым займаецца толькі інфармацыйны цэнтр «Шанс» (тэл. 246-41-73). Працуюць валанцёры (40—45 чалавек), яны рыхтуюць інфармацыйныя матэрыялы, ладзяць адукацыйныя курсы сярод будучых патэнцыяльных носьбітаў вірусу. Магчыма, так і трэба, але нават у сталіцы такі цэнтр адзін, а наркотыкі ўжываюць зараз паўсюдна, яны ўжо дайшлі і да вёскі.

## Паглядзім на Захад

У Германіі ўжыванне наркотыкаў — рэч крымінальная. Але суддзя, не пачынаючы працэсу, пытае ў наркамана: ці жадае ён прайсці добраахвотнае лячэнне? Калі так, то турмы не будзе. Існуе, напрыклад, сетка альтэрнатыўных клінік «Дайтоп», дзе праводзяць дэзінтаксікацыю, а потым курс узмоцненай псіхатэрапіі — яго вядуць самі ж былыя наркаманы. Эфектыўнасць «Дайтопаў» — 30—40 працэнтаў, што вышэй, чым у псіхіятрычных клініках.

Няма прывычных лекаў і ў бальніцах сусветнай арганізацыі «Нарканон», а эфектыўнасць яшчэ вышэй — да 70 працэнтаў. Тут ачышчаюць арганізм вітамінамі, каліева-магніевымі растворамі, 2-тыднёвай саўнай.

Нельга сказаць, што гэтыя звесткі сакрэтныя. Вывучай, карыстайся, тым больш, вялікіх грашовых выдаткаў гэта не патрабуе. Але наўрад ці падобныя клінікі прыжывуцца ў нашай дзяржаве, дзе ўсё загадзя рэгламентавана і на кожны чых ёсць артыкул у Крымінальным кодэксе.

Дзіўна чуць з вуснаў чыноўнікаў, якія займаюцца праблемай СНІДу, аптымістычныя заявы кшталту: вось, маўляў, у нас такая моцная, усебаковая праграма, мы ўсё выдатна арганізуем, падключым грамадскасць — і канец СНІДу. Варта заўважыць, што ніводнай краіне гэта яшчэ не ўдавалася.

**Андрэй СЯРЖАН**

# «Могілкі» каля Быхава



*Многія жыхары ваеннага гарадка шкадуюць, што развалўся СССР.*

**У САВЕЦКІЯ ЧАСЫ** каля райцэнтра Быхаў Магілёўскай вобласці дыслацыраваўся гарнізон марской авіяцыі. Гэта быў адзін з самых засакрэчаных аб'ектаў на беларускай зямлі. Цяпер ваенная база нікому не патрэбная. Хіба толькі быхаўскай міліцыі, якая ўтульна абаснавалася ў колішнім штабе каля самай узлётна-пасадачнай паласы. А па ўзлётнай бетонцы цяпер прагульваюцца статкі кароў і час ад часу праязджаюць запрэжаныя ў калёсы коні. Справа ў тым, што зямлю вакол паласы спрытныя мясцовыя жыхары распрацавалі пад бульбяныя плантацыі, нягледзячы на тое, што тутэйшая глеба добра атручаная авіяцыйным палівам ды іншымі шкоднымі рэчывамі.

Адлятаючы на расійскія ваенныя базы, авіятары пакінулі пасля сябе на быхаўскай зямлі горы смецця ў выглядзе розных самалётных частак — фюзеляжаў, шасі, «хвастоў». Застаўся тут яшчэ адзін «могільнік» — так людзі называюць галоўную плошчу ваенгарадка. Тут па перыметры ўстаноўлены некалькі дзесяткаў бюстаў вайсковых герояў, стаяць таксама бюсты Чапаева, Фрунзе, Кірава і Калініна.

З часоў расфармавання гарнізона ў быхаўскія хаты прыйшоў доўгачаканы спакой і цішыня. Але для жыхароў некалі элітнага гарадка цяпер не лепшы час.

**Анатоль КЛЯШЧУК**

*Фота аўтара*



*На ўзлётнай паласе цяпер пасвяць кароў.*



*Ад самалётаў–ракетаносцаў засталіся толькі шасі.*



*Такога «дабра» на авіябазе шмат.*

# Воля и вера

## *Из цикла «Частное мнение гражданина Старикевича»*



Если составить сегодня словесные портреты белорусских оппозиционеров, то у большинства из них среди особых примет будут фигурировать потухшие глаза. Они безусловно выдают внутреннее состояние: усталость, разочарование, неверие в возможность что-либо изменить.

Последние десять лет по праву могут называться десятилетием разбитых надежд. Все начиналось неправдоподобно хорошо. Даже путь к независимости, который обычно бывает обильно полит кровью, Беларусь прошла без потрясений и людского горя.

**СУДЬБА** уготовила нам испытание на прочность несколько позже. Попутный ветер сменился сначала полным штилем. И пока капитаны, вместо того, чтобы пустить в ход весла, озирались по сторонам в ожидании очередных милостей от природы, налетела буря. Корабль, степень надежности которого оставляла желать много лучшего, быстро потерпел крушение.

Понятно, что требовать хорошего настроения от тех, кто цепляется за плавающие на поверхности доски, не приходится. Но необходимо помнить, что спасение утопающих — дело рук самих утопающих. Тот, кто безвольно опустит эти самые руки, неминуемо пойдет ко дну на корм рыбам.

Выбор, собственно говоря, невелик. Либо сохранять присутствие духа и стараться выплыть даже если земля не просматривается на горизонте. Либо смиренно ожидать своей участи, переругиваясь с товарищами по несчастью.

Увы, очень многие представители белорусской антипрезидентской оппозиции действуют по второму варианту. Они чего-то ждут: то ли спасательного круга, брошенного с западного берега, то ли, что президентская береговая охрана возьмет на борт своего корабля и отконвоирует к строго отведенным местам в парламенте. А пока любое действие, предпринимаемое соседом, начинают поносить на чем свет стоит.

**В ЭТОМ СМЫСЛЕ** настоящим откровением стало поведение оппозиционных кругов в истории, когда Сергей Наумчик предложил нынешним властям посадить его в тюрьму в обмен на свободу молодых политзаключенных Павла Северинца и Алексея Шидловского. Своим обращением он поставил президентскую сторону в тупиковую ситуацию: для нее был одинаково плох любой ответ, хоть положительный, хоть отрицательный. Промолчал не только Лукашенко, обычно не упускающий малейшего повода лягнуть своих противников, но и его штатные подпевалы.

За них все сделали независимые газеты, обрушившиеся на Наумчика с обвинениями, позаимствованными из арсенала коммунистической пропаганды. *«Попытка заработать политический капитал», «экстравагантный поступок с целью привлечь к себе внимание»* — это только самые мягкие из обвинений, прозвучавших в адрес человека, не так уж мало сделавшего для своей страны. Один из особо интеллектуальных авторов на страницах своего издания и вовсе охарактеризовал поступок Наумчика с применением выражений из лексикона подзаборной шпаны. В общем, каждый оценил случившееся в меру собственной испорченности. И никто из наших славящихся своей демократичностью и толерантностью умов даже не рассматривал возможность того, что для Сергея Наумчика это был чисто моральный шаг. А стоило бы хоть теоретически допустить такую возможность.

Я убежден, что Наумчик не нуждается в адвокатах, но позволю себе напомнить об одном факте его биографии. В 1992 году, когда обсуждался вопрос о референдуме по роспуску Верховного Совета, ряд депутатов парламента заявили, что покинут свои посты в Верховном Совете в случае, если плебисцит не будет назначен. Однако после принятия отрицательного решения у многих нашлись веские доводы, почему необходимо остаться. Свое слово сдержал только Наумчик, возможно вопреки политической целесообразности. Но сдержал.

Эпизод с Наумчиком является наглядной демонстрацией того, как собственное бессилие по отношению к врагу компенсируется укусом союзника. Ситуация, между прочим, чисто житейская. Очень часто свое разочарование по тому или иному поводу мы вымещаем на своих близких. Нам так проще, ведь для этого много ума не надо. Вот только чести это никому не делает.

**НАША ОППОЗИЦИЯ** в большинстве своем удобнее всего чувствует себя в образе жертвы. Конечно, писать жалобы международному сообществу на бесчинства режима гораздо легче, чем рассчитаться с ним за унижения. Однако необходимо помнить, что те, кто исповедуют психологию потерпевших, победителями не становятся никогда.

Впрочем, и этих маленьких радостей они могут лишиться. Во-первых, на Западе уже сообразили, что от нашей политтусовки, кроме очередных стенаний, ждать нечего. Ну раз так, пеняйте на себя, ребята, будем иметь дело с тем, кто что-то из себя представляет. Последнее время Европа ищет пути компромисса с официальным Минском. Если Лукашенко согласится хотя бы на проведение парламентских выборов, то вновь станет персоной грата по ту сторону Буга.

Во-вторых, не исключено, что очень скоро Западу будет не до Беларуси. Развитие ситуации в России внушает мало оптимизма. Если коммуно-имперским силам удастся закрепиться у власти, то белорусский вопрос будет снят с повестки дня. Нас в этом случае ждет практически неминуемая потеря государственности в обмен на хорошо знакомые прелести жизни в стране, по какому-то недоразумению считающей себя сверхдержавой. Дай Бог, чтобы этого не произошло, но нужно быть готовым и к такому развитию событий.

Так или иначе, даже если не брать в расчет мрачноватые перспективы, то положение, в котором мы находится сегодня, выглядит достаточно беспросветным. Чтобы переломить ситуацию, необходимо прежде всего избавиться от ощущения безысходности. Для этого нужны, в первую очередь, нравственные ориентиры, своего рода источники моральных сил, если не для всего общества, то для лучшей его части.

**СИМВОЛОМ** США является статуя Свободы, и ее дух незримо, но уверенно витает над американским обществом. Не хотелось бы проводить прямые параллели, но все те места, куда в Беларуси возят иностранных гостей — Хатынь, Курапаты, Брестская крепость — это кладбища. Уважение к памяти предков является непременной составляющей нормального общества. Но могилы все же не могут служить в качестве идеала.



*Многие считают, что ситуация у нас хуже некуда — хоть ты пойди и утопись...*

Иначе как реквиемом белорусской нации нельзя назвать последнюю книгу Василя Быкова «Стена». Это при том, что Быков — единственный, кто является безусловным авторитетом для любого нормального гражданина Беларуси. Особо гнетущее впечатление остается после прочтения заглавного рассказа, главный персонаж которого, приложив нечеловеческие усилия, для того чтобы пробить стену своей камеры, оказывается у виселицы во внутреннем дворике тюрьмы.

Тем, кто считает, что хоронить белорусов как нацию пока рановато, весьма желательно определить собственные идеалы. Сложность заключается в том, что в этой области любые новостройки, как, например, воссозданный московский Храм Христа Спасителя, выглядят пошлой пародией. Исторического материала у нас не так много. На мой взгляд, означенным целям может послужить образ БНР, сохранившей благодаря усилиям диаспоры некоторые атрибуты государственности. Вопрос это, безусловно, дискуссионный, но в любом случае решать его рано или поздно придется.

> *Чтобы переломить ситуацию, необходимо прежде всего избавиться от ощущения безысходности*

Черпать вдохновение можно и из конкретных примеров. Мог ли подумать девятнадцатилетний литовский юноша Валдас Адамкус, сражаясь в лесах с войсками НКВД, что спустя более чем полвека он станет президентом своей страны? Едва ли, но тем не менее идею служения Родине он пронес через всю жизнь, и в конце концов она нашла более чем реальное воплощение.

Меньше повезло белорусскому патриоту Борису Рагуле, которому была посвящена предыдущая статья цикла. Но когда я стал свидетелем его встречи в Вильнюсе с бывшими сослуживцами по эскадрону, то поразился тому, что уровень национального самосознания этих простых людей куда выше, чем у многих представителей оппозиционной элиты. «Рагулевцы» не искали тогда и не ищут теперь наград за свою деятельность. Заряду, сохранившемуся у этих пожилых людей, могут позавидовать молодые. Это настоящие БОЙЦЫ, которых ныне в Беларуси так не хватает. Они верят, что сделанное ими не пропадет и послужит следующим поколениям белорусов.

Тот трагический в нашей истории период, когда страна оказалась между двумя чудовищами — гитлеровским фашизмом и советским коммунизмом — тоже никак не назовешь простым. В этой ситуации Борис Рагуля не жаловался на судьбу, не ждал у моря погоды, а брался и делал то, что считал правильным. И начинал он не с высокопарных заявлений и мудрых программ, а с конкретных дел на своем уровне.

**В ЭТОЙ СВЯЗИ** мне вспомнился недавний разговор с коллегой о «Молодом Фронте». Мнение собеседника было таково: *«Они, конечно, молодцы, что-то делают. Но, понимаешь, смелость Паши Северинца* (который, кстати, в это время находился под арестом. — **А.С.**) *— это смелость сержанта».*

Даже если принять такую сомнительную постановку вопроса, то смелость сержанта (так же можно охарактеризовать и то, что в свое время делал Рагуля, которому, кстати, в годы войны было столько же лет, сколько сейчас Северинцу) все же гораздо лучше трусости генералов, которую мне лично доводилось наблюдать достаточно часто. Хорошо, что тот боевой дух, который присущ «рагулевцам», в наше время переняли ребята из «Молодого Фронта». Надежды на будущее можно связывать только с целеустремленными людьми.

Глухая неприязнь некоторых старших товарищей к Северинцу во многом обусловлена тем, что в перспективном плане он сильнее их всех вместе взятых. Другое дело, сумеет ли руководитель «Молодого Фронта» реализовать свой потенциал. Для многих было бы выгоднее, чтобы он пошел по апробированному пути «круглых столов», поездок за границу и петиций в ЕС, и на эту дорогу его безусловно попытаются столкнуть. Пока, правда, плохо получается: в отличие от других молодежных организаций «фронтовцы» на посиделки с Лукашенко не ходят.

На общем унылом фоне «Молодой Фронт» выделяется своим задором и оптимизмом. Его члены не испытали того количества разочарований, которое выпало на долю политиков предыдущего призыва. Важно, чтобы этот настрой «фронтовцы» сумели пронести через все испытания, коих будет немало.

Очень желательно, чтобы встряхнулись и сбросили с плеч груз отрицательных эмоций и все остальные. Британский поэт Редьярд Киплинг писал:

*Умей принудить сердце,*
*нервы, тело*
*Тебе служить, когда*
*в твоей груди*
*Уже давно все пусто,*
*все сгорело,*
*И только Воля говорит:*
*«Иди!»*

Не стоит искать психологические «норки», чтобы переждать тяжелые времена. От тех, кто разуверился в возможности что-то изменить сегодня, я не раз слышал фразу: *«Моя задача так воспитать своих детей в этом обществе, чтобы они выросли настоящими белорусами»*. Желание похвальное, но сложновыполнимое. Если мы будем находиться на положении диаспоры в своей стране, то неизбежен процесс ассимиляции. Очень велика вероятность, что дети сформируются главным образом под влиянием внешней среды, а не родителей. И идентифицировать себя как белорусов, патриотов своей страны будет лишь малая часть из них.

Еще более наивной представляется и относительно популярная в последнее время идея проникновения во власть с тем, чтобы впоследствии изменить ее изнутри. Власть просто растворит в себе инородные тела без всяких последствий для собственного облика.

**НАДО ЧЕСТНО** сказать себе: *«У нас сегодня мало оснований для радости. Но их количество не увеличится само по себе. Только собственными руками мы можем создать свою страну. И только в этом случае имеем право рассчитывать на достойную жизнь»*. В противном случае все, что уже положено ранее на алтарь Родины, обратится в прах. Слова «я сделал все возможное», если отсутствует результат, стоят очень недорого.

Выстоять и победить можно только при наличии неординарной воли и веры в успех. С этими качествами можно пройти через любые испытания. Потому что, даже когда потеряно все, остается будущее. Этого достаточно.

**Александр СТАРИКЕВИЧ**

